ТУТ І ЦЯПЕР
WWW.SVABODABY.NET
БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА
05.04.12-11.04.12 г.

## УНІВЕРСАЛЬНЫЯ ГРАБЛІ




НАШАЙ АПАЗІЦЫІ

СТАР. 4-5

## ГЭТАЕ ГОРКАЕ

ПЕНСІЁННАЕ “ШЧАСЦЕ”




СТАР. 6-7

# ЗАКАПАЦЬ “СЯКЕРУ ВАЙНЫ”

Чарговае “сола” кіраўніка Беларусі сведчыць пра тое, што яго пачынаюць палохаць “абдымкі” Масквы.



*Ваяваць з Еўропай – сабе даражэй*

### СМЕХ У ЗАЛЕ

На нарадзе па пытаннях знешняй палітыкі Аляксандр Лукашэнка засведчыў сваю гатоўнасць ісці на ўступкі Еўрапейскаму Саюзу, хаця ўсяляк спрабаваў гэта схаваць. Найбольш яскравым прыкладам з’яўляецца яго пазіцыя па пытанні вяртання амбасадараў ЕС у Беларусь:

*— Мы с министром иностранных дел договорились, что мы каждую страну и каждого посла будем персонально рассматривать в плане возвращения в Беларусь. Но это не имеет ничего общего с тем, что мы хотим воспрепятствовать возвращению послов... Это была их воля, они уехали, совершив дипломатический, политический шаг... А вот вернуться обратно — это уж мы посмотрим, каким образом они будут возвращаться в Беларусь. Но и говорить о том, что мы их не пустим, тоже нам не следует. Нам с кем-то разговаривать надо? Надо.*

> “У “абдымках” Крамля, якія ператвараюцца з ласкавых у стальныя, Лукашэнка пачуваецца ўжо некамфортна і імкнецца выслізнуць з іх”.

Атрымліваецца смешна: спачатку Лукашэнка кажа, што ледзь ці не асабістыя дазволы на вяртанне кожнаму амбасадару будзе выдаваць, а потым адразу ж засведчвае, што перашкод на шляху дыпламатаў назад у Беларусь не будзе. Дык у чым тады сэнс “персонально рассматривать”?

### А ПРЫЗНАННЯ МІЖНАРОДНАЙ СУПОЛЬНАСЦІ ЎСЕ Ж ТАКІ ХОЧАЦЦА

Ясна, што гэта лухта, бо калі б афіцыйны Мінск завярнуў каго-небудзь з амбасадараў, то астатнія, зыходзячы з прынцыпу салідарнасці, таксама адмовіліся б вяртацца. Проста Лукашэнку карціць прадэманстраваць такім чынам беларускаму народу сваю значнасць: маўляў, што хачу, тое і раблю, нават з гэтымі замежнікамі, таму тутэйшым рыпацца наогул не варта.

Адначасова кіраўнік Беларусі заявіў пра гатоўнасць памілаваць тых палітвязняў, якія напісалі адпаведныя прашэнні. І, больш за тое, ён сам узняў тэму выбараў у Палату прадстаўнікоў, дэманструючы зацікаўленасць у тым, каб яны былі прызнаны міжнароднай супольнасцю.

*Заканчэнне на стар. 3*

**ДАРЭЧЫ**

### РАСІІ ЎЖО НЕ ТРЭБА ПАДАБАЦЦА

“Прыватызацыі, каб дагадзіць нейкім дзяржавам і аб’яднанням, у Беларусі не будзе”, — заявіў Аляксандр Лукашэнка на нядаўняй нарадзе ў Мінску.

“Калі вы хочаце спадабацца Міжнароднаму валютнаму фонду, Еўрапейскаму Саюзу, Амерыцы, Расіі або яшчэ камусьці, аб’явіўшы, што мы прадаём штосьці, тады не са мной і не пры мне. Не тая праблема і не тое пытанне, каб прыватызаваць краіну, каб камусьці спадабацца”, — цытуе Лукашэнку дзяржаўнае агенцтва БелТА.

Лукашэнка сцвярджае, што ў Беларусі можа быць прыватызавана любое прадпрыемства — пытанне толькі ў цане.

**НАВІНА**

## ДЗЕЛЯ БУДУЧЫНІ БЕЛАРУСІ

Рыгор Барадулін, Генадзь Бураўкін, Радзім Гарэцкі і Анатоль Грыцкевіч — за скліканне Усебеларускага з’езда.

Падзеі апошняга часу ў жыцці Бацькаўшчыны выклікаюць вострую трывогу за яе будучыню.

Фінансавы крызіс, дэвальвацыя рубля выявілі слабасць айчыннай эканомікі. Распачаты продаж дзяржаўнай маёмасці пагражае стратай нацыянальнага багацця, нажытага многімі пакаленнямі беларусаў. З-за непрадбачлівай і непаслядоўнай замежнай палітыкі наша краіна нястрымна аддаляецца ад дэмакратычнага свету і ўпарта коціцца да міжнароднай ізаляцыі. Няўмольна паглыбляюцца экалагічныя і дэмаграфічныя праблемы.

Усё гэта ставіць пад пагрозу не толькі перспектывы цывілізаванага развіцця Рэспублікі Беларусь, але і яе незалежнасць.

Надышоў час усёй грамадой прааналізаваць сённяшні дзень Радзімы, знайсці шляхі выпраўлення калектыўных памылак і пралікаў.

Мы можам перамагчы. Мы павінны перамагчы. Мы переможам, калі будзем разам.

**РЫГОР БАРАДУЛІН, ГЕНАДЗЬ БУРАЎКІН, РАДЗІМ ГАРЭЦКІ, АНАТОЛЬ ГРЫЦКЕВІЧ, СУСТАРШЫНІ УСЕБЕЛАРУСКАГА З’ЕЗДА ЗА НЕЗАЛЕЖНАСЦЬ 2000 г.**

# ЯК УРАТАВАЦЬ СЯРГЕЯ КАВАЛЕНКУ?

Штодзень віцеблянін губляе вагу, і ўжо гаворка ідзе літаральна пра яго выжыванне.

**ДЗМІТРЫЙ ГАЛКО (БУДЗІМІР), ЖУРНАЛІСТ, ТРЫМАЎ ГАЛАДОЎКУ 25 ДЗЁН:**

## “ПРАЗ ПЭЎНЫ ЧАС ГАЛАДОЎКІ ТЫ НЕ КІРУЕШ СІТУАЦЫЯЙ”

— Мой варыянт, я думаю, яму не падыдзе, бо я таксама не паддаваўся на просьбы сваякоў палітычных зняволеных. Там проста здарылася экстранная сітуацыя — тэракт. Я спыніў галадоўку толькі тады, калі стала зразумела, што яна не будзе заўважана грамадствам. А на просьбы я таксама не рэагаваў. Праз пэўны час галадоўкі страчваецца валявы імпульс, і ты перастаеш кіраваць сітуацыяй, яна цягне за сабой. Я думаю, што ён, пэўна, не памрэ — яго ж кормяць прымусова. Аднак ён вельмі папсуе сваё здароўе, застанецца інвалідам.

**ЮРЫЙ ХАДЫКА, ПАЛІТЫК, ТРЫМАЎ ГАЛАДОЎКУ 26 ДЗЁН:**

## “ТРЭБА ДАПУСЦІЦЬ ДА ЯГО СВЯТАРА”.

— Размовы са святарамі — гэта адзіны шлях. Спачатку трэба пераканаць яго, змяніць псіхалагічны настрой, заклікаць да змагання, да жыцця. Калі ён належыць да нейкай канфесіі, хаця б умоўна, то трэба запрасіць да яго святара. Да нас з Сіўчыкам у свой час прыходзіў наш уніяцкі святар спадар Ян (цяпер ужо нябожчык). Гэта падтрымала тады, хаця мы, канечне, праводзілі больш рацыянальную галадоўку. Нашы патрабаванні былі не такія катэгарычныя: мы патрабавалі прызнаць нас невінаватымі, на што мелі поўнае права. Але што тычыцца Сяргея... Мо папрасіць Казуліна? Ён сам некалі галадаў і калі б згадзіўся паразмаўляць з Сяргеем... У працэсе працяглай галадоўкі страчваецца адчуванне голаду і небяспекі. Чалавек знаходзіцца ў нейкай эйфарыі. Патрэбны родныя людзі побач, сваякі… Можа, Пазняку трэба патэлефанаваць, каб ён “нашаптаў” што-небудзь?

**СЛАВАМІР АДАМОВІЧ, ПАЭТ, ТРЫМАЎ СУХУЮ ГАЛАДОЎКУ 7 З ПАЛОВАЙ ДЗЁН:**

## “ВЫЙСЦЕ МАГЧЫМАЕ, КАЛІ ЯГО ПЕРАВЯДУЦЬ У ЦЫВІЛЬНЫ ШПІТАЛЬ”

— У выпадку з Сяргеем дапамагчы можа толькі выкананне ўладамі ягоных патрабаванняў. Чалавек сядзіць абсалютна не за што. Яму, з аднаго боку, ёсць што губляць: ён мае цудоўную жонку, дваіх дзяцей і дазваляе сабе рызыкаваць сваім жыццём. З гледзішча трывіяльнай логікі, ён, канечне, робіць неразумна — рызыкуе пакінуць дзяцей без бацькі і жонку без мужа. Але з гледзішча найвышэйшых чыннікаў — маральных, духоўных — ён робіць абсалютна правільна. І я яго разумею, як ніхто. Я стаяў на гэтай мяжы. Тут угаворы звонку ўжо запозныя. Ён ужо на 100 працэнтаў не валодае сваім целам. Калі будуць падтрымліваць жыццё ў яго целе, і будзе магчымы перавод у цывільны шпіталь... Магчыма, на гэтым этапе можна будзе знайсці нейкае выйсце для яго жыцця, але ў любым выпадку ён ужо падарваў сваё здароўе. І грамадства мусіць разглядаць яго як героя нашага часу, які адстойвае духоўныя рэчы, беларускія гістарычныя сімвалы. Калі чыноўнікі рэжыму гэта зразумеюць, то з’явіцца надзея.

**ДА ВЕДАМА**

**Напомнім, што актывіст КХП БНФ Сяргей Каваленка асуджаны на 2 гады і месяц за парушэнне адбыцця «хіміі» за вывешванне бел-чырвона-белага сцяга на навагодняй ёлцы ў Віцебску. З сярэдзіны снежня з перапынкам на 20 дзён Сяргей Каваленка трымае галадоўку супраць прысуду.**

**26 сакавіка Сяргея Каваленку перавялі з рэспубліканскага турэмнага шпіталя на «Валадарцы» ў псіхіятрычны шпіталь пры калоніі «Віцьба-3».**

**ІЗОЛЬДА ЧАСНАКОВА, УРАЧ-ТЭРАПЕЎТ:**

## “КІМ ЁН БУДЗЕ ДЛЯ СВАІХ ДЗЯЦЕЙ? АБАРОНЦАМ ЦІ АБУЗАЙ?”

— Дапамагчы можна псіхалагічнымі размовамі, асабліва з чалавекам, які сам галадаў. Галадоўкай ты шкодзіш сабе і, магчыма, робіш лепш таму, хто хоча табе зла. Чалавек павінен гэта зразумець і павінен быць здаровым, каб дасягаць сваіх мэт. Бо калі чалавек галадае, то ў першую чаргу пакутвае яго мозг. Вельмі складана потым вярнуцца да нармальнага жыцця — могуць пачацца неабарачальныя працэсы. Калі галадоўка не сухая (чалавек ужывае ваду, вітаміны), то ў арганізм паступаюць толькі неабходныя рэчывы, а затым знікаюць тлушчавыя клеткі. Пасля пачынаюць “спадаць” мышцы, і, як правіла, іх пазбаўляюцца самыя важныя органы. Нават сардэчныя мышцы могуць знясільвацца. У выніку можа развіцца кардыёдыстрафія. Потым пашкоджваюцца нервовая сістэма, сасуды галаўнога мозгу, суставы (вымываецца кальцый). І каму ён будзе патрэбны такі? Дзецям? Жонцы? А ці не стане ён абузай для іх замест таго, каб быць абаронцам і апорай?

**АЛЯКСАНДР КАЗУЛІН, НАВУКОВЕЦ, ПАЛІТЫК, БЫЛЫ КАНДЫДАТ У ПРЭЗІДЭНТЫ РЭСПУБЛІКІ БУЛАРУСЬ; ТРЫМАЎ ГАЛАДОЎКУ 53 ДНІ:**

## “ПАЎПЛЫВАЦЬ НА ЯГО ЗМОЖА ТОЛЬКІ ТОЙ, ХТО САМ ПРАЙШОЎ ПРАЗ ГЭТА”.

— Я думаю, што калі ўлада зацікаўлена ў выратаванні Каваленкі, то яна гэтаму паспрыяе. Трэба як мага больш допускаць да яго святароў, людзей, якія могуць паўплываць сваім аўтарытэтам. Зразумела, што калі чалавек прымае такое рашэнне і калі ён пераступіў нейкую мяжу, то на 99 адсоткаў ён будзе ісці да канца. Гэта для яго барацьба, у якую ён уклаў усяго сябе. Я рабіў пэўныя намаганні для таго, каб сустрэцца з Каваленкам (жонка пісала прашэнне на імя суддзі), але тыя, ад каго гэта залежыць, адказалі адмовай.

**АПЫТАННЕ ПРАВОДЗІЎ ЗМІЦЕР ЗЯЗЮЛЯ**

*Заканчэнне. Пачатак на стар. 1*

# ЗАКАПАЦЬ "СЯКЕРУ ВАЙНЫ"

Такім чынам, назіраецца досыць вялікі кантраст паміж папярэднімі ваяўнічымі заявамі Лукашэнкі на адрас Захаду і адносна кампраміснымі, што прагучалі 5 красавіка. Да таго ж і міністр замежных справаў у той жа дзень засведчыў, што Беларусь не жадае эскалацыі адносін з Еўрасаюзам. Чаму змяніліся паводзіны афіцыйнага Мінска?

## ВА ЎЛАСЦІВЫМ ХАМСКІМ СТЫЛІ

Выглядае так, што галоўная прычына хаваецца ў заканчэнні чарговага "мядовага месяца" паміж кіраўніцтвам Расіі і Беларусі. Масква, выдаткаваўшы новую порцыю нафтагазавых субсідый напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў, пасля іх заканчэння пачынае размаўляць з Лукашэнкам зусім інакш. Першай ластаўкай у гэтым сэнсе з'яўляецца паветраны канфлікт, які Расія вырашае ва ўласцівым для сябе хамскім стылі — дасылаючы раніцай у панядзелак тэлеграму пра спыненне палётаў "Белавіа", калі ўжо абвешчана пасадка на чарговы рэйс. І гэта толькі зандаж глебы для таго, каб потым выставіць куды больш сур'ёзны рахунак.

Да таго ж відавочна, што асабістыя адносіны паміж Аляксандрам Лукашэнкам і Уладзімірам Пуціным застаюцца напружанымі. Гэта вынікае ў тым ліку з абставін, у якіх адбыўся ў сакавіку саміт ЕўрАзЭс. З кіраўніком Казахстана Нурсултанам Назарбаевым Уладзімір Пуцін правёў асабістыя перамовы, а Аляксандру Лукашэнку давялося бавіць час у кампаніі маскоўскага мэра Сяргея Сабяніна і ўдавы першага прэзідэнта РФ Наіны Ельцынай.

Карацей кажучы, у "абдымках" Крамля, якія ператвараюцца з ласкавых у стальныя, Лукашэнка пачуваецца ўжо некамфортна і імкнецца выслізнуць з іх. Таму і закопвае "сякеру вайны" з Захадам, робячы пры гэтым грозны выгляд, каб захаваць твар.

**ВАЛЯНЦІН СЫЧ**

# "У МЯНЕ К ЛУКАШЭНКА ПРАІЗАШОЛ ІЗЬЯН"

Рагінь — вёска няправільная. Тутэйшыя ў цэнтры паселішча паставілі крыж і прыладзілі зверху глобус. Яны купляюць хлеб на "вексель", а за грошы, кажуць, набываюць камп'ютары. Сяляне выпісваюць дзяржаўную прэсу ва ўсё большых маштабах, а Лукашэнку любяць усё менш.

## КАЎБАСНАЯ АПАЗІЦЫЯ

Рагінь — старажытная вёска ў цэнтры Гомельскай вобласці. Па мерках БТ, гэта анамальнае для Беларусі сяло, бо ператварэнне вёскі ў аграгарадок ідзе семімільнымі крокамі, а народ усё адно не адчувае шчасця ад дзяржаўнага клопату.

Тут жывуць мае бабуля з дзядулем. Старыя ад першых выбараў галасавалі за Лукашэнку. Зараз многія з іх не вераць прэзідэнту і не падтрымліваюць яго палітыку. Таго, хто ёсць яму альтэрнатывай, яны не шукаць, бо заняты пошукамі альтэрнатывы каўбасе з натуральнага мяса.

Раней па тэлефоне бабуля штораз пачынала на мяне шыкаць, як толькі заходзіла размова пра палітыку. Пра прэзідэнта нават у хаце яна казала шэптам — дзеля бяспекі. Зараз бабуля са згодай ківае дзеду пасля яго слоў пра тое, што Лукашэнку "пара прыбіраць". А гаварыць пра гэта сама баіцца — па звычцы. Маім старым па 75 гадоў. Яны атрымліваюць па адным мільёне пенсіі.

**Міхаіл Юркоў (мой дзядуля) акуратна падбірае словы:**

*— У апошні час, як пайшоў "вінт цэн", многа хто гаворыць, што Лукашэнку трэба прыбіраць. Вось і ўсё. А раней гаварылі "ЗА". Цэны гэтыя, націск на народ, збядненне — і людзі мяняюць меркаванне.*

Раней у лядоўні маіх старых вадзіліся розныя гатункі каўбас і сыроў, цукерак было як у краме... І зараз усё гэта ёсць, але для гасцей, бо для сябе старыя шкадуюць. У куце лядоўні я знайшла высахлы лімон — бабуля захоўвала яго на чорны дзень ды забылася. Сыр ледзь не пацвіў у чаканні таго дня, калі яго не шкада будзе з'есці.

Рагінскі "форум", як і належыць, — каля крамы. Асабліва гарачыя размовы вядуцца ў базарны дзень.

Для базарнага дня бабуля складае спіс: хлеб, масла, алей, цукар, крупы, кавалачак каўбасы, малако, кефір, смятана, цукеркі. Дае дзеду 250–300 тысяч рублёў. Рэшты не застаецца.

## ЖЫЦЦЁ Ў ПАЗЫКУ

Жыццё сям'і Юрковых пачыналася ў Рагіні, квітнеючай вёсцы, дзе было больш за 1,5 тысячы жыхароў, а школа працавала ў дзве змены. А цяпер гэта амаль што вымерлы ўскрайчык паселішча, што мае статус аграгарадка.

У ім захавалася трохпавярховая школа з 70-цю вучнямі. З пяці дзяржаўных крам працаваць засталася адна. Праўда, каля клуба адкрыліся дзве прыватныя крамкі. Выпадковасць, але ў іх гандлююць дзве Ларысы.

Першая Ларыса кіруе ў пластыкавым шапіку з ідэйна правільнай назвай "Александрыя". На пасадзе гандляркі яна з 2010 года, раней працавала ў мясцовай бальніцы. Але бальніцу ператварылі ў дом састарэлых, і там стала невыносна цяжка. У краме трошкі лягчэй.



*Цяпер вясковая крама часта працуе на "вексель"*

У прыватныя крамы людзі прыносяць грошы, бадай, толькі ў дзень "палучкі". У астатні час тавары можна браць на "вексель". **Ларыса** цэлы месяц уносіць у сшытак пазыкі, а потым чакае, пакуль народ разлічыцца.

*— Цяжка з людзямі,* — кажа яна. *— У іх грошай няма, а яны прыходзяць і патрабуюць тавар. Хто хлеб бярэ, хто бутэльку, і ўсё на "вексель". У дзень палучкі, вядома, аддаюць. Ад гэтага майму гаспадару самому прыходзіцца пазычаць, каб завозіць чарговую партыю тавараў.*

Другая Ларыса мне стрыечная цётка. Яна кіруе крамай сама. На яе афармлена ІП. **Ларыса Юркова** заўсёды была аптымісткай. На пытанне "Як бізнес?" адказвае, што ўсё добра. У яе таксама ёсць сшытак, пра які яна любіць пажартаваць:

*— Я каторым людзям кажу: вы лепш краму абрабуйце ды касу забярыце, але калі сшытак знікне, то не дай Бог. Тут дзясяткі мільёнаў, а ў касе — капейкі.*

Па меркаванні Ларысы, нельга сказаць, каб рагінскія жыхары жылі бедна: у многіх дварах стаяць машыны, а ў дамах — камп'ютары. Чаму тады ежу купляюць на "вексель"?

*— Усе жывуць па-рознаму: хтосьці хоча дзецям дапамагчы, а хтосьці — мо купіць што дарагое, дык эканоміць. Крызіс…*

*Заканчэнне на стар. 8*

# ЧАМУ АПАЗІЦЫЯ ЎВЕСЬ ЧАС НАСТУПАЕ НА АДНЫ І ТЫЯ Ж ГРАБЛІ

Восенню гэтага года павінны адбыцца парламенцкія выбары ў краіне. Апазіцыя дагэтуль не вызначылася з фарматам удзелу-няўдзелу ў самай важнай палітычнай кампаніі найбліжэйшых гадоў.

## СТАТУС-КВО ГАЛОЎНЫХ РЭЙТЫНГАЎ КРАІНЫ

Апошнія даследаванні зарэгістраванага ў Вільні Незалежнага інстытута сацыяльна-эканамічных і палітычных даследаванняў (НІСЭПД) сведчаць, што рэйтынг А.Лукашэнкі вырас на 10 працэнтаў, а рэйтынг апазіцыі па-ранейшаму вельмі нізкі.

Чаму апазіцыя не вучыцца на ўласных памылках? Ці задумваўся хто-небудзь з апазіцыянераў над стратэгіяй найбольш эфектыўных дзеянняў? І ці здолеюць апазіцыянеры заваяваць давер у насельніцтва, калі пойдуць на парламенцкія выбары?

Над гэтымі пытаннямі **"Тут і цяпер"** разважала разам з экспертамі.

## "ПЕРПЕНДЫКУЛЯРНА" З НАРОДАМ

**Доктар сацыялагічных навук прафесар Алег Манаеў лічыць, што беларуская апазіцыя жыве ў іншым вымярэнні.**

"Апазіцыі трэба быць бліжэй да народа — гэта я без гумару кажу, — каменціруе вынікі даследаванняў НІСЭПД Манаеў. — А ўжо як гэта зрабіць — мова, тэхналогіі, зносіны, праграмы, асобы — доўгая размова, і кніжак вельмі шмат з гэтай нагоды напісана.

Напрыклад, за байкот, паводле даследаванняў НІСЭПД, выступаюць усяго 10 адсоткаў апытаных, прычым такая карціна існуе ўжо на працягу многіх гадоў. Але днямі палітык Віталь Рымашэўскі выступіў з заявай, што выбары трэба байкатаваць. Вы думаеце, Рымашэўскі не знаёмы з апошнімі сацдаследаваннямі? Знаёмы. Мы з ім у Варшаве размаўлялі, але з-за пэўных прычын (для яго больш важных, чым тое, пра што мы гаворым) яго партыя вырашыла вось так.

Паводле даных усіх апытанняў, пасля 1996 года ў Беларусі на парламенцкія выбары ніколі менш за 60 працэнтаў выбаршчыкаў не прыходзіла. Ну хай зараз прыйдзе не 60, а 50 ці 58 адсоткаў — усё роўна выбары адбудуцца! Гэта значыць, што байкатаваць выбары, спасылаючыся на палітвязняў ці на што іншае, — значыць ісці "перпендыкулярна" з народам. І ў лепшым выпадку людзі будуць успрымаць палітыкаў, якія байкатуюць выбары, як гарадскіх дзівакоў.

**— А што скажаце з нагоды прэзідэнцкага рэйтынгу?**

— Матэрыяльнае становішча людзей паляпшаецца.

**— Хіба?**




*Ідэе байкота налічваецца гадоў 11, а воз і цяпер там…*

— Ну паглядзіце: заробкі павышаюцца, пенсіі, стыпендыі… Кожны тыдзень па радыё чуеш — лекі бясплатныя дзецям да трох гадоў далі, тое-сёе. Нехта мо і не заўважае, а народ жа жыве гэтым! І ўсе ведаюць, адкуль узяліся грошы, — іх дала Расія. Усё проста...

**— Ці можна тады сказаць, што Лукашэнка зрабіў высновы са свайго нядаўняга нізкага рэйтынгу і паспрабаваў выправіць памылкі, а апазіцыя не змагла зарыентавацца?**

— Груба кажучы, так. Лукашэнка неяк карэктуе свае дзеянні з рэальнасцю, спрабуе вучыцца на сваіх памылках, а асноўная частка нашай апазіцыі, на жаль... Унутраныя прынцыпы важнейшыя за тое, чым жыве народ.

## ТОЛЬКІ БАЙКОТ!

**Палітык Віктар Івашкевіч, быццам бы не звяртаючы ўвагу на лічбы НІСЭПД і людскую думку, працягвае агітаваць за байкот парламенцкіх выбараў.**

Мы задалі яму пытанне "Чаму"?

— Нізкі рэйтынг апазіцыйных лідараў і партый сведчыць аб тым, што сярэдні клас (па маім меркаванні, тыя, для каго жыццё не толькі чарка і шкварка), не задаволены пасіўнасцю тытульнай апазіцыі, — выказвае свае думкі Івашкевіч. — Значыць, людзям, якія хочуць змен і ў той жа час не з'яўляюцца фармальнымі лідарамі палітычных партый, трэба браць адказнасць на сябе і праяўляць ініцыятыву.

Што тычыцца лічбаў пра байкот, то тут галоўнае — як задаць пытанне. На пытанне "Ці падтрымліваеце вы прапанову часткі апазіцыі правесці байкот?"

### ТОЛЬКІ ЛІЧБЫ

Павольная, але відавочная стабілізацыя эканамічнага самаадчування беларусаў пацягнула за сабой і стабілізацыю іх адносін да прэзідэнта, сцвярджаюць эксперты НІСЭПД. Так, колькасць тых, хто лічыць яго галоўным вінаватым у цяперашнім крызісе ў краіне, знізілася з 61,2% у верасні і 53,7% у снежні да 48,6% сёння (адпаведна, віна ўрада вырасла з 41,3% у верасні да 46,6%, парламента — з 11,9% да 17,04%, Еўропы — з 12% да 16%).

Менавіта з Лукашэнкам сёння звязвае надзеі на выхад з крызісу найбольшая колькасць рэспандэнтаў — 35,9 % (з Расіяй — 25,2%, прадпрымальнікамі — 24,7%, Захадам —19,7%, апазіцыяй — 8,6%).

Падрос і рэйтынг прэзідэнта, які з 53% у снежні 2010 года знізіўся да 20,5% у верасні 2011, а потым вырас да 24,9% (у снежні 2011) і сёння складае 34,5%. Прычым рост адзначаецца па ўсіх паказчыках. Напрыклад, колькасць тых, хто давярае прэзідэнту, павялічылася з 24,5% у верасні і 31,2% у снежні да 42,2% сёння, а тых, хто не давярае, знізілася адпаведна з 62% і 54,5% да 48,5%.

Адзнака «становішча рэчаў у нашай краіне ў цэлым» становіцца ўсё больш пазітыўнай: калі ў верасні 68,5% лічылі, што краіна развіваецца «ў няправільным кірунку», а ў снежні — 55,7%, то сёння так думаюць 52,5% рэспандэнтаў («у правільным напрамку»— адпаведна, 17%, 25,6% і 35,3%).

большасць адказвае, што нічога пра гэта не ведае. А калі запытацца “Ці бачыце вы сэнс у выбарах, калі сітуацыя застанецца без змен?”, то адказ, відаць, будзе іншым. За байкот выступае прыкладна 10 працэнтаў. Я лічу, што гэта вельмі вялікі працэнт тых, да каго ўдалося дастукацца. Але не факт, што тыя, хто гатоў галасаваць за Лукашэнку, даведаўшыся пра кампанію байкоту, не зменяць свае погляды…

Людзі да нядаўняга часу верылі, што выбары — гэта механізм іх уплыву на палітыку дзяржавы. Але тых, хто лічыць, што выбары не фальсіфікуюцца, няшмат. Лагічна, што гэтыя людзі не гатовы пайсці на выбары, нават калі яны не ведаюць, што ёсць кампанія байкоту.

Дарэчы, сёння цяжка даць гарантыю, што, калі надыдзе час выбараў, у краіне не здарыцца эканамічных абвастрэнняў, якія адназначна паўплываюць на волевыяўленне грамадзян”.

> “Насамрэч гэта важна — арыентавацца на тое, чаго чакае беларускі народ ад апазіцыі”.

## БТШНЫ ІМІДЖ

**Былы міністр сельскай гаспадаркі Васіль Лявонаў актыўна працаваў на прэзідэнцкіх выбарах 2001 года і добра ведае, чаму апазіцыя мае нізкі рэйтынг і што перашкаджае ёй атрымаць большасць галасоў на любых выбарах.**

На пытанне “Ці трэба дэмакратам ісці на парламенцкія выбары?” Васіль Севасцьянавіч адказаў так:

“А хіба ў нас ёсць выбары? І хіба мы маем апазіцыю? Пры дыктатуры не бывае апазіцыі — толькі дысідэнты.

І потым, простым людзям пра тое, што адбываецца ў апазіцыі, вядома вельмі мала. Паглядзіце на тыраж самай вялікай незалежнай газеты “Народная воля” — 30 тысяч. Дапусцім, газету перадаюць з рук у рукі, яе чытае не адзін чалавек, а тры-чатыры — усё роўна атрымліваецца 120 тысяч. А ў нас насельніцтва амаль 10 мільёнаў... Таму што ведае пра нашу апазіцыю большасць выбаршчыкаў? Тое, што кажуць на БТ. Маўляў, гэта нанятыя захадам людзі, якія дэстабілізуюць абстаноўку ўнутры краіны, атрымліваюць за гэта грошы, нідзе не працуюць і шыкоўна жывуць — і ўсё на гэтым. Атрымліваецца, што Лукашэнка змагаецца з ворагамі беларускага народа, павышае пенсіі, і рэйтынг расце. Усё проста".

## ПАСЛАННЕ ДА НАРОДА

**Намеснік старшыні руху “За Свабоду” Юрась Губарэвіч прапаноўвае дэмакратычным сілам Беларусі выпрацаваць супольнае пасланне да беларускіх грамадзян і знайсці эфектыўныя механізмы для таго, каб данесці яго людзям.**

“Насамрэч гэта важна — арыентавацца на тое, чаго чакае беларускі народ ад апазіцыі, — разважае палітык. — Ён увесь мінулы год чакаў і, напэўна, не дачакаўся адказу на пытанне, што рабіць у гэты крызіс, якія ёсць варыянты выйсця, паляпшэння жыцця. Замест таго, каб даваць супольны адказ, апазіцыя займалася высвятленнем адносін паміж сабой — вызначала, хто за байкот, а хто за ўдзел у выбарах, хто добры, а хто дрэнны. Таксама, на жаль, большую ўвагу засяроджвалі на тых момантах, якія важны для апазіцыі: пытанні палітвязняў, адносін да палітычнай сістэмы Лукашэнкі, але гэтыя пытанні сёння менш важныя для беларускага грамадства. Таму я лічу, што цяпер важна выпрацаваць агульнае пасланне да беларускіх грамадзян і знайсці эфектыўныя механізмы, для таго каб данесці яго да кожнага чалавека.

Што да нізкага рэйтынгу апазіцыі, то тут ёсць суб’ектыўныя і аб’ектыўныя прычыны. На жаль, апазіцыя не мае эфектыўных каналаў камунікацыі, і наступныя парламенцкія выбары якраз могуць стаць такім каналам. Канкрэтныя асобы, якія пойдуць на выбары, выкарыстоўваючы дзяржаўныя сродкі масавай інфармацыі, легальныя пікеты, якія нельга будзе забараніць, будуць даносіць пасланне беларускім грамадзянам.

Байкот, я думаю, досыць эфектыўная мера для тых, хто працуе на вузкую радыкальную групу насельніцтва, для тых, хто знаходзіцца выключна ў інтэрнэце і не мае ніякіх структур у Беларусі. Для тых жа, хто хоча працаваць з шырокім колам насельніцтва, выкарыстанне механізмаў выбарчай кампаніі будзе больш эфектыўным, чым размовы пра байкот, які, як сведчаць апытанні, насельніцтва не разумее і не падтрымлівае.

Ну а наконт сцвярджэнняў пра тое, што апазіцыю трэба мяняць і што яна ні на што не здольна паўплываць, магу сказаць так: яны існуюць столькі год, колькі і апазіцыя. Заўсёды знаходзіцца нехта, хто можа даць ацэнку ўсім і ўсяму, але не можа стаць наперадзе гэтай барацьбы і, адпаведна, вытрымаць той удар, які трымае беларуская апазіцыя. Канешне, ёсць пэўныя хібы і недахопы, але, на жаль, дадзеная сітуацыя не спрыяе з’яўленню новых сіл, якія маглі б замяніць дзеючую апазіцыю”.

**МАРЫНА МІТ**



*Апаненты ўлады дагэтуль не вызначыліся, да чаго заклікаць электарат*

# І ТОЛЬКІ АДЗІН ДАКЛАД НА РОДНАЙ МОВЕ

У праграму міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі “Праблемы барацьбы са злачыннасцю і падрыхтоўкі кадраў для праваахоўных органаў”, што адбудзецца 5 красавіка ў Акадэміі МУС, уключаны толькі адзін даклад на беларускай мове — “Канстытуцыйны аспект дзяржаўнасці беларускай мовы ў Рэспубліцы Беларусь”.

Яго будзе рабіць прафесар кафедры беларускай і замежных моў Акадэміі МУС, кандыдат філалагічных навук, **дацэнт Валянціна Мароз**.

Выступ **экс-начальніка ГУУС Мінгарвыканкама Леаніда Фармагея**, які з’яўляецца саіскальнікам навукова-педагагічнага факультэта Акадэміі МУС, заяўлены ў адной з секцый на канферэнцыі. Генерал, зняты з пасады за тэракт у метро, будзе распавядаць пра *“Фарміраванне прафесійных кампетэнцый будучага інспектара дарожна-патрульнай службы Дзяржаўнай аўтамабільнай інспекцыі”*. Між іншым калісьці Леанід Фармагей кіраваў ДАІ, так што гэтую службу ён ведае як ніхто іншы.

Зрэшты, Фармагей — не адзіная вядомая персона на дадзеным мерапрыемстве. Напрыклад, як напісана ў праграме, на публіцы з’явіцца экс-генпракурор Рыгор Васілевіч, прычым разам з сынам. Але выступаць яны будуць у розных секцыях.

**АФІЦЫЙНА**

**Па словах прадстаўнікоў МУС, у міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі прымуць удзел “больш за 300 чалавек, у тым ліку 28 дактароў і 150 кандыдатаў навук”, заяўлены таксама тытулаваныя спецыялісты з Украіны, Расіі і Казахстана.**

**Плануецца, што ў рабоце канферэнцыі прымуць удзел старшыня Следчага камітэта Беларусі Валерый Вакульчык, намеснік міністра ўнутраных спраў Анатоль Курылец, намеснік генпракурора Аляксандр Лашын, першы намеснік начальніка Аператыўна-аналітычнага цэнтра пры прэзідэнце Уладзімір Рабавалаў, старшыня Беларускай рэспубліканскай калегіі адвакатаў Віктар Чайчыц і іншыя.**

**АЛЕНА РОЎДА**

# ГЭТАЕ ГОРКАЕ ПЕНСІЁННАЕ

“Ідэальны беларус працуе ўсё жыццё на дзяржаву, ніколі не хварэе і памірае ў дзень выхаду на пенсію”. Анекдот гэты, хоць і з барадой, але ўсё адно застаецца актуальным. З папраўкай на вецер перамен: “адмаўляецца ад пенсіі, працуе яшчэ 10 год, а тады памірае”. Мо і не смешна, зато дакладна пра нас.




*У нас людзі не прывыклі адкладваць грошы на пенсію самастойна*

Паводле звестак Белстата, на студзень 2012 года ў нашай краіне налічвалася больш як 2,48 млн пенсіянераў. Пры гэтым на кожнага з іх прыпадае амаль двое працуючых, так што можна спаць спакойна — ёсць, на каго абаперціся. Але ўжо ў 2015 годзе на 100 працуючых, паводле прагнозаў Міністэрства працы і сацыяльнай абароны РБ, будзе 60 пенсіянераў, у 2020-м — 67 і гэтак далей. Таму пенсіянерам заўтрашнім і паслязаўтрашнім — тым, хто толькі набліжаецца да “заслужанага адпачынку”, і тым, хто аб ім яшчэ не думае — з улікам эканамічных, сацыяльных і дэмаграфічных калізій застаецца хіба толькі верыць у лепшае ды рыхтавацца да горшага.

> “Значыць, прапанаваная дзяржавай накапіцельная сістэма выйгрышная толькі для некаторых асабліва загартаваных жанчын-доўгажыхарак?”

Перспектыў, насамрэч, няшмат. Першая: павышэнне пенсіённага ўзросту, як адбылося практычна ва ўсіх развітых (і не толькі еўрапейскіх) краінах свету. Прыкладам, сёлета на гэты крок пайшлі Украіна і Літва. Але беларусаў гэта навала абміне, як запэўнівае не хто-небудзь, а першая асоба краіны: “Мы абяцалі сваім людзям, што пакуль на гэта не пойдзем. І людзі просяць нас не рабіць гэта”.

Другую — стымуляванне грамадзян добраахвотна выходзіць на пенсію пазней за вызначаны ўзрост — актыўна лабіруе дзяржава. У прыватнасці, указ № 136 абяцае тым, хто яшчэ 5 гадоў папрацуе толькі на зарплату, выплачваць у 1,5 разу большую пенсію, чым тым, хто пачаў атрымліваць яе адразу пасля дасягнення пенсіённага ўзросту (http://www.president.gov.by/press127488.html#doc). На паперы атрымліваецца вельмі прывабны варыянт, але няхітрыя падлікі сведчаць, што для звычайнага чалавека ён зусім нявыгадны.

Прыкладам, чалавек атрымлівае сярэднюю пенсію па ўзросце — на сёння гэта 1,255 млн рублёў. Адмовіўшыся ад яе на 5 год, беларус, лічы, добраахвотна аддае дзяржаве 1,255*12*5 = 75,3 млн рублёў. Нават калі гэты ўмоўны беларус праз 5 гадоў пачне атрымліваць 3 мільёны рублёў з улікам перыядычных індэксацый, недаатрыманае ён верне толькі праз 2 гады, а эфект ад сваёй працавітасці адчуе і таго пазней. Другі ўмоўны беларус, які ад такой жа сярэдняй пенсіі не адмовіцца, за гэтыя 7 год атрымае сама меней 105,4 мільёна. Пры гэтым першаму ніхто не перашкаджае таксама працаваць і атрымліваць зарплату. Як сведчыць статыстыка, у сярэднім у Беларусі пасля выхаду на пенсію мужчыны жывуць 14 гадоў, жанчыны — 24. Значыць, прапанаваная дзяржавай накапіцельная сістэма выйгрышная толькі для некаторых асабліва загартаваных жанчын-доўгажыхарак?

“Не-не-не! — адмахваецца абедзвюма рукамі мінская пенсіянерка Зінаіда Казак. — Я такое ўжо бачыла: пайшла на пенсію ў 1997-м, бо трэба было даглядаць унучку, але стажу не хапала, і выйшла зноў дапрацоўваць 5 год. Калі прыйшла ў сабес афармляць пенсію, то сустрэла знаёмага, які працаваў да 65 гадоў. Яму паведамілі, што пенсію будзе атрымліваць дакладна гэткую ж, як і ягоны сусед, які выйшаў на пенсію, як і належыць, у 60 год, і мой знаёмец лаяў сябе апошнімі словамі: “Ёлупень, во ёлупень — каму я лепш зрабіў?!” Акрамя таго, я хоць і старая, але добра памятаю, колькі разоў дзяржава нас падманвала: з савецкімі ўкладамі, потым са зберажэннямі ў беларускіх рублях… Так што цяпер не веру! І нікому не раю”.

Трэцяя перспектыва — сістэма страхавога пенсіённага забеспячэння — у Беларусі дагэтуль не прыжылася, у тым ліку “дзякуючы” інфляцыі, і няма гарантый, што прыжывецца ў найбліжэйшы час. Хоць у Вялікабрытаніі, напрыклад, паспяхова функцыянуе трохузроўневая сістэма: базавая дзяржаўная пенсія плюс дадатковая за стаж плюс зберажэнні саміх грамадзян. У Нідэрландах таксама: дзяржаўная пенсія плюс прафесійная плюс добраахвотнае страхаванне.

Яшчэ адзін, досыць нечаканы, спосаб вырашэння праблемы бачыць кіраўнік Даследчага цэнтра ДПМ Аляксандр Чубрык. “У гэтую пастку мы трапілі з-за нізкага ўзроўню нараджальнасці ў апошнія дваццаць гадоў, — мяркуе эксперт. — І нават калі павялічыць на 5 гадоў пенсіённы ўзрост (і для мужчын, і для жанчын), то існуючая праблема дэфіцыту пенсіённай сістэмы, паводле ацэнак Сусветнага банка, адсунецца прыкладна да 2040 года. Але ўсё ж такі яна нікуды не знікне. Таму выйсце там жа, дзе быў уваход, — паляпшаць дэмаграфічную сітуацыю, каб праз некалькі дзесяцігоддзяў было, з чыіх падаткаў выплачваць пенсіі”.

“Мне падаецца, што пры існуючай сістэме нармальнага пераходу да накапіцельнай пенсіённай сістэмы не адбудзецца, — адзначае экс-міністр працы Беларусі Аляксандр Сасноў. — На павелічэнне пенсіённага ўзросту ўлады не пойдуць як мага даўжэй, бо найменшы крок у гэтым кірунку нашкодзіць ім самім, але рана ці позна будуць вымушаны зрабіць гэта. Мяркую, першае, што зробяць, — гэта ўраўнуюць пенсіённы ўзрост мужчын і жанчын, магчыма, не адразу, а ў некалькі этапаў. Потым павысяць пенсіённы ўзрост для мужчын. Прагназаваць, калі дакладна гэта адбудзецца, немагчыма, бо мы з вамі не ведаем, колькі яшчэ працягне “вертыкаль” на расійскіх падачках. Мо і ў самой Расіі гэтага не ведаюць. Сёлета “адшпілілі” некалькі мільярдаў долараў — значыць, яшчэ можна пражыць па старой схеме. Увогуле, гэтая ўлада можа працягнуць яшчэ досыць доўга, распрадаючы тое, што ёй не належыць”.

# «ШЧАСЦЕ»

## ЯНЫ І МЫ

**Беларусаў хлебам не кармі, дай параўнаць свае даходы і выдаткі з суседскімі (зазвычай без уліку ўзроўню цэн, умоў жыцця і іншых акалічнасцей). То не будзем парушаць традыцыю.**

| Краіна | Сярэдні памер працоўнай пенсіі па ўзросце (у мясцовай валюце/у доларах, еўра) | Узрост выхаду на пенсію (мужчыны/жанчыны) |
|---|---|---|
| **Беларусь** | 1,255 млн рублёў/ **157 долараў** *(з 1.02.2012)* | **60/55 год** |
| **Расія** | 9817 рублёў/ **334,5 долара** *(з 1.04.2012)* | **60/55 год** |
| **Украіна** | 1246 грыўней/ **156 долараў** *(з 1.04.2012 дадатковыя надбаўкі для некаторых катэгорый пенсіянераў павялічаны)* | **60/60 год** *(з 1.01.2012)* |
| **Літва** | 839,88 літа/ **324 долара**/ 243 еўра *(з 1.01.2012)* | **65/65 год** *(з 1.01.2012 будзе паступова расці да згаданых значэнняў)* |
| **Польшча** | 1795 злотых/ **577долараў**/433 еўра | **65/60 год** |
| **Германія** | 810 еўра/ **1080 долараў** | **65** *(да 2030 года павялічаць да 67)*/**65 год** |
| **Фінляндыя** | 1344 еўра/ **1792 долара** | **65/60 год** |
| **Ізраіль** | 6000 шэкеляў/ **1611 долараў**/1210 еўра | **67/65 год** |
| **ЗША** | **1164 долары** | **67/65 год** |
| **Японія** | 66700 іен/ **810 долараў**/707 еўра | **60/65 год** |

**па курсах нацыянальных валют на 2-3.04.2012*

## З ПЕСНІ СЛОВА НЕ ВЫКІНЕШ

*"У нас адносна невысокія пенсіі, але ў суадносінах цэн, паслуг і гэтак далей, калі параўноўваць нават з Расіяй, то ў нас не горш. Мы своечасова іх выплачваем, у нас вялікі сацыяльны пакет, асабліва для пенсіянераў, таму якраз тут у прапорцыі мы выглядаем нядрэнна,* — адзначыў Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка падчас сакавіцкай нарады па пытаннях удасканалення пенсіённага забеспячэння грамадзян. — *Але я прызнаю, што пенсіі павінны павышацца"*




Дарэчы, у апошнія гады сярэдні памер пенсіі па ўзросце ў Беларусі складае каля 40% ад сярэдняга заробку, адзначае міністр працы і сацыяльнай абароны РБ Мар'яна Шчоткіна. Сёлета пенсіі будуць павышацца яшчэ тройчы — з 1 мая, 1 жніўня і 1 лістапада.

І як тут не захацець жыць у Беларусі, якую паказваюць па тэлевізары?..

**ВІКТОРЫЯ ПРАКАПОВІЧ**

У Чавускім раёне Магілёўскай вобласці скончылася месяцовая акцыя "Не!" брыдкаслоўю".

# ЯК У НАС ЗМАГАЮЦЦА З МАЦЮКАМІ

Вынікі грамадскай кампаніі, арганізаванай мясцовай уладай, былі агучаны на афіцыйным пасяджэнні райвыканкама інадрукаваны ў раённай газеце "Іскра".Трэба сказаць,яны ўражваюць. Ажно на 9 чалавек былі складзены адпаведныя адміністрацыйныя пратаколы, чым на пасяджэнні і хваліўся начальнік РАУС Юрый Лабанаў. Ён таксама гаварыў пра тое, што кожны дзень разам з падначаленымі штудзіруе Загад №1 міністра ўнутраных спраў Рэспублікі Беларусь "Аб ветлівых і ўважлівых адносінах супрацоўнікаў унутраных спраў і ваеннаслужачых унутраных войскаўда грамадзян". На жаль, штодзённая практыка паказвае, што загад і жыццё — рэчы розныя. Гэта міжволі пацвердзіў і настаяцель мясцовага праваслаўнага прыхода айцец Мікалай, які прысутнічаў на выніковым пасяджэнні. Ён прыгадаў аповед свайго прыхаджаніна, які вучыцца ў Акадэміі міліцыі. Той неяк пажаліўся айцу Мікалаю, што яму як верніку цяжка знаходзіцца ў курсанцкім атачэнні, бо мат і брыдкаслоўе ў будучых міліцэйскіх афіцэраў лічыцца нармальнай з'явай і ўжываюцца да месца і не да месца. Айцец Мікалай параіў хлопцу звярнуцца да начальства, што той і зрабіў. Начальства навучальнай установы падтрымала свайго курсанта і са свайго боку пачало змагацца з брыдкаслоўем. "Цяпер мацюкоў у сценах акадэміі стала чуваць менш", — пахваліўся наступным разам будучы афіцэр.

Аб тым, ці сапраўды так, нам цяжкамеркаваць— даводзіцца верыць на слова. А вось што наконт гэтага думаюць звычайныя грамадзяне і грамадскія актывісты, мы вырашылі высветліць. І вось што пачулі.

**Дзядька Васіль, заўсёднік Чавускага аўтавакзала:**

— Ой, ды лаюцца ў нас усе, усюды і заўсёды! На свой адрас я чую мацюкі ад міліцыянераў, буфетчыцы, вадзіцеляў аўтобусаў, пасажыраў. Мне няма куды ісці, таму ўвесь дзень я знаходжуся тут, на аўтавакзале. Вось мяне і штурхаюць з кута ў кут, канешне ж, з дапамогай мату. Ды я і сам магу… Вось за гэта мяне ніхто і ніколі не папракаў. Нармальная мова, даходлівая і кароткая.

**Іван Барысаў, незалежны журналіст:**

— Аднойчы мне давялося па ўласнай справе правесці паўдня ў міліцэйскім ведамстве. Побач прабягалі афіцэры і сяржанты. Ніякай увагі на мяне і на іншых людзей, якія, як і я, чакалі перад кабінетам, ніхто не звяртаў. Усе гаварылі паміж сабой і па тэлефонах матам, нікога не саромеючыся. Гаварылі па-руску ж, канешне. Калі б ведалі родную мову і гаварылі на ёй, было б без мацюкоў. Па-беларуску таксама можна абразіць чалавека, сказаць непрыемнае, але такога бруднага мату,як у рускай мове, няма. Паказушныя ж акцыі нічога не даюць, акрамя справаздачнай "птушачкі" ў планах ідэалагічных і БРСМаўскіх аддзелаў і камітэтаў.

**Рыгор Кастусёў, палітык:**

— Калі я неяк адседжваў суткі ў адну з пасадак у Магілёве, яшчэ ў 2006 годзе, мне на вочы патрапіла адна з абласных газет з артыкулам тагачаснага кіраўніка абласной міліцыі. Ён там сярод іншага распавядаў і пра тое, як ведамства змагаецца з брыдкаслоўем на вуліцы і ў сваіх шэрагах. Я якраз і быў затрыманы нібыта за тое, што лаяўся на вуліцы. Гэта пачыналася ўжо тады і мае месца да гэтага часу — калі ты апазіцыянер, грамадскі актывіст, беларускі патрыёт, то ў вачах міліцыянераў і начальства ты мацяршчыннік і дробны хуліган. Ім хоць бы што з гэтай хлусні і дурноты… Дарэчы, пакуль мае затрыманцы складалі пратакол, я шмат чаго пачуў на іх сакавітай мове, дзе, здаецца, не было ніводнага нармальнага слова. Як вымушаны былі ўжываць у пратаколе нармальныя словы, то ўспацелі, бедныя, нібы вагон разгрузілі.

**ВОЛЬГА СТАРАВОЙТАВА**

# БЕЛАРУСКАЯ ВЁСКА: “У МЯНЕ К ЛУКАШЭНКА ПРАІЗАШОЛ ІЗЬЯН”

*Заканчэнне. Пачатак на стар. 3*

## НАВОКАЛ КАНФУЗ ДЫ “ІЗЬЯН”

Пакупнікі ў Ларысінай краме абмяркоўваюць палітычныя падзеі. І гаспадыня заўважыла рэзкае падзенне рэйтынгу Лукашэнкі: *“Я раней таксама яго падтрымлівала, а зараз у мяне ізьян к яму праізашол. Зараз я сільна за яго не ваюю, не саблазняю людзей, не агіцірую. Канфуз праізашол”*.

Ці залежыць дабрабыт селяніна ад вынікаў галасавання, мой дзядуля не ведае. Каб добра жыць, перадусім трэба працаваць, лічыць ён. А што да галасавання, то дзед мае сваю праграму рэформ: агітацыі трэба пазбавіцца, каб чалавек кіраваўся толькі сваім меркаваннем. І дзед узгадвае пра нейкіх агітацыйных людзей, якія наліваюць сялянам ці то за подпіс, ці то за голас.

У тэорыю маленькіх людзей, пра якіх улада забылася, верыць сентыментальная рагінская паштальёнка **Галіна**. Ёй Лукашэнка падабаецца сваім характарам — тым, як яго ўсе слухаюцца і баяцца. Аб прафесійных здольнасцях прэзідэнта яна не гаворыць.

Перад пахваламі Лукашэнку Галіна скардзіцца на сваю паштальёнскую долю: даводзіцца навязваць пенсіянерам “Советскую Белоруссию”…

По меркаванні Галіны, усё роўна, хто прэзідэнт, на дабрабыт сялян гэта ўплывае мала. Галоўнае — каб работа была.

**Міхаіл Юркоў** за савецкім часам не меў ілюзій наконт улады. Не цешыцца дзед ілюзіямі і цяпер.

— Хто б ні прыйшоў пасля яго, будзе горш. Гарантыю даю: першыя часы пасля Лукашэнкі стане шчэ горш. І з гэтага вялікае пытанне: час прыбіраць Лукашэнку надышоў, але ці варта?

## ШТУЧНАЯ ЛЮБОЎ

Аднойчы Ярмошына заявіла, што пенсіянеры — асноўны электарат Лукашэнкі. І я пагаджалася з ёй. Аднак зараз утварылася прорва паміж Ярмошынай і маім дзедам. Пра тое, адкуль яна ўзялася, вядома адным экспертам.

Палітолаг **Уладзімір Мацкевіч** тлумачыць, што да чаго ў гэтай школьнай задачы “Лукашэнка +сяляне = любоў”:

— Схільнасць вясковых людзей да Лукашэнкі штучна выпрацоўвалася гадамі. Калі да людзей трапляла гуманітарная дапамога, яна афармлялася нібыта асабіста ад Лукашэнкі. Для таго каб заахвоціць сялян галасаваць датэрмінова, казалі: “Вы без гэтага не атрымаеце дровы, вугаль, сена…”. Па тэлевізары паказвалі іншую Беларусь, якая адрознівалася ад іх вёскі ў лепшы бок. І людзі думалі, што толькі ў іх дрэнна. Штучнае кіраванне грамадскім меркаваннем вялося з савецкіх часоў, захавалася і існавала да апошняга часу.



*Такіх вясёлых селянак у вёсках засталося няшмат*

Спадар Мацкевіч раіць не заўсёды прымаць за чыстую манету тое, калі людзі кажуць: “Я лічу, я так думаю”. Гэта можа быць не іх асабістае меркаванне, а тая пазіцыя, якую яны лічаць правільнай, якую пачулі ў СМІ альбо ад аўтарытэтных асоб у сваёй вёсцы.

> “У прыватныя крамы людзі прыносяць грошы, бадай, толькі ў дзень “палучкі”. У астатні час тавары можна браць на “вексель”.

“І толькі ў тыя часы, калі пачынаюцца крызісы ды хістанні ў палітыцы, людзі адмаўляюцца ад “правільных” адказаў і вяртаюцца да таго, што думаюць самі. Яны пачынаюць крытычна глядзець на свет. Меркаванне аб тым, што беларуская вёска падтрымлівае Лукашэнку, ужо даўно не адпавядае рэчаіснасці”, — канстатуе палітолаг.

## ДВА ПАРАДОКСЫ

“Сяляне могуць не любіць Лукашэнку, але калі народ не мае station ўчай альтэрнатывы, то ўсё роўна будзе галасаваць за яго. “А за каго яшчэ?” —пытаюцца людзі. І вось гэтае пытанне ніякімі коштамі, ніякімі крызісамі, ніякім падзеннем узроўню жыцця вырашыць немагчыма. Бо станоўчая альтэрнатыва павінна быць прапанавана”, — даводзіць палітолаг Мацкевіч.

Альтэрнатыва альтэрнатывай, але ўвесь парадокс у тым, што беларускія сяляне складаюць невялікую групу выбаршчыкаў. Чыста з тэхналагічнага боку яны складаюць значную меншасць: колькасць вясковага насельніцтва — каля 25% жыхароў краіны.

І гэтыя акалічнасці эфектыўней за любы выцвярэзнік вяртаюць на зямлю лятуценных рамантыкаў рэвалюцыі.

**ТАЦЦЯНА БУБЛІКАВА**



**Заснавальнік** ТАА “Тут і цяпер” **Адрас** г. Мінск, вул. Касцюшкі, 18
**Галоўны рэдактар** А. Уласаў (email: info@svabodaby.net) **Падпісана ў друк** 23:45 05.04.12
Тыраж 299 экзэмпляраў